# Голас Радзімы

№ 18 (2004)
30 красавіка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



177 дэлегатаў ад камсамольскай арганізацыі нашай рэспублікі прынялі ўдзел у ХХ з'ездзе Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі, які праходзіў у Маскве з 15 па 18 красавіка. Беларусь накіравала на маладзёжны форум самых дастойных сваіх прадстаўнікоў.

НА ЗДЫМКУ: дэлегаты ХХ з'езда ВЛКСМ студэнтка Мінскага фінансава-эканамічнага тэхнікума Алена ВЕЧОРКА, прадаўшчыца Наталля СТАРЧАНКА і Ларыса АСТАШЭВІЧ, навуковы супрацоўнік Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР Аляксандр ГУЗІКАЎ, рабочы Мінскага аўтазавода Аляксандр ЛАПЦЕЎ, сакратар камітэта камсамола Беларускага політэхнічнага інстытута Міхаіл КАРПІНЧЫК. (Інфармацыя пра ХХ з'езд камсамола змешчана на 5-й стар.)

Фота С. КРЫЦКАГА.

## ВІЗІТ В. ЯРУЗЕЛЬСКАГА Ў МАСКВУ

У Маскве з кароткім дружалюбным візітам пабываў Першы сакратар ЦК ПАРП, Старшыня Дзяржаўнага савета ПНР Войцэх Ярузельскі.

У Вялікім Крамлёўскім палацы М. С. Гарбачоў і В. Ярузельскі падпісалі Дэкларацыю аб савецка-польскім супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры, якая будзе спрыяць пашырэнню ўзаемадзеяння і кантактаў паміж нашымі народамі.

У час візіту былі разгледжаны таксама пытанні далейшага развіцця савецка-польскага супрацоўніцтва ў эканоміцы.

В. Ярузельскі прыняў удзел ва ўрачыстай цырымоніі перадачы ў пасольстве ПНР у СССР архіўных каштоўнасцей у рамках культурнага і навуковага абмену паміж СССР і ПНР.

У гонар высокага госця Цэнтральны Камітэт КПСС даў сняданак, на якім М. С. Гарбачоў і В. Ярузельскі абмяняліся прамовамі.

Значную частку свайго выступлення Генеральны сакратар ЦК КПСС прысвяціў міжнародным праблемам. Даючы ацэнку нядаўнім перагаворам, якія адбыліся ў Маскве з дзяржаўным сакратаром ЗША Дж. Шульцам і групай кангрэсменаў на чале са спікерам Дж. Райтам, М. С. Гарбачоў сказаў: «З аднаго боку, мы ўбачылі жаданне актывізаваць дыялог, лепш зразумець нашы намеры і матывы нашых дзеянняў, але, з другога боку, яшчэ раз пераканаліся, як цяжка рабіць з амерыканцамі рэальную палітыку.

Зноў і зноў мы даказвалі неабходнасць балансу інтарэсаў. А баланс інтарэсаў—гэта, перш за ўсё, скрупулёзны ўлік ваенна-стратэгічнай бяспекі партнёра, прынцып роўнасці па ўсіх параметрах узбраенняў, на ўсіх стадыях іх скарачэння. Гэта — адмова ад спроб камандаваць у знешняй палітыцы, навязваць свае погляды, тым больш — парадкі, глядзець на іншыя краіны і цэлыя раёны свету як на сваю вотчыну, якая на амерыканскай палітычнай мове значыцца як сфера «жыццёвых інтарэсаў ЗША».

Што мы канкрэтна прапаноўваем у Еўропе?

**Першае.** Ліквідаваць ужо ў бліжэйшыя пяць год усе савецкія і амерыканскія ракеты сярэдняй дальнасці ў Еўропе пры захаванні толькі па 100 боегаловак на такіх ракетах у азіяцкай частцы СССР і на тэрыторыі ЗША.

**Другое.** Ліквідаваць адначасова савецкія і амерыканскія аператыўна-тактычныя ракеты ў Еўропе і правесці перагаворы па такіх ракетах на ўсходзе нашай краіны і на тэрыторыі Злучаных Штатаў.

**Трэцяе.** Устанавіць самую строгую сістэму кантролю, аж да інспекцый на месцах, за выкананнем прынятых бакамі абавязацельстваў на гэты конт.

Дэлегацыі СССР на савецка-амерыканскіх перагаворах у Жэневе дадзена ўказанне неадкладна—23 красавіка сумесна з дэлегацыяй ЗША пачаць выпрацоўку канкрэтных дагаворанасцей па даных пытаннях.

**Чацвёртае.** Разгледзець і вырашыць пытанне аб тактычных ядзерных сродках у Еўропе, у тым ліку аб тактычных ракетах, на асобных шматбаковых перагаворах у адпаведнасці з будапешцкай ініцыятывай СССР, ПНР і іншых дзяржаў—удзельнікаў Варшаўскага Дагавора аб скарачэнні ўзброеных сіл і звычайных узбраенняў на Еўрапейскім кантыненце — ад Атлантыкі да Урала».

Амерыканцам было прапанавана таксама распрацаваць ключавыя палажэнні па іншых пытаннях ядзернага раззбраення, якія разам з Дагаворам па РСД маглі б стаць прадметам дагаворанасці на вышэйшым узроўні.

Зразумела, сказаў М. С. Гарбачоў, што дасягненне дагаворанасцей патрабуе вялікіх намаганняў, палітычнай волі як ад Савецкага Саюза, так і ад Злучаных Штатаў. У нас такая воля ёсць. Справа цяпер за Злучанымі Штатамі і іх еўрапейскімі саюзнікамі, ад якіх мы маем права чакаць канструктыўных, адэкватных нашым прапановам адказ.

Надышоў час узяцца за перабудову ўсёй сістэмы міжнародных адносін такім чынам, каб сіла, асабліва ваенная, назаўсёды перастала быць сродкам вырашэння тых ці іншых міжнародных праблем. Не аргументы зброі, а зброя аргументаў у абарону міру павінна вызначаць далейшы лёс чалавецтва, падкрэсліў М. С. Гарбачоў.

УРАЧЫСТЫЯ СХОДЫ

## ПРЫСВЕЧАНЫ ГАДАВІНЕ ЛЕНІНА

**Споўнілася 117 год з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Гэтай знамянальнай даце быў прысвечаны ўрачысты сход, які адбыўся ў Маскве ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў. На ім прысутнічалі прадстаўнікі грамадскасці сталіцы, кіраўнікі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, замежныя дыпламаты, зарубежныя госці.**

**З дакладам «Ленінізм — аснова тэорыі і палітыкі перабудовы» выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР М. Рыжкоў. Ён даў аналіз тых рэвалюцыйных перамен, якія адбываюцца сёння ў нашай краіне, падкрэсліў важнасць і актуальнасць вучэння Леніна на цяперашнім этапе развіцця савецкага грамадства. Ацэньваючы першыя вынікі перабудовы, М. Рыжкоў сказаў: галоўнае заключаецца ў тым, што краіна абудзілася, прыйшла ў рух. І няхай яшчэ няма таго якаснага пералому, якога мы дабіваемся— для гэтага патрэбен час, — але перамены вялікага палітычнага, духоўнага і маральнага значэння адбываюцца, яны ў наяўнасці. Да творчай работы абнаўлення зацікаўлена падняліся народныя масы. Людзі працы ўсё больш усведамляюць сябе гаспадарамі жыцця, адчулі адказнасць за сучаснасць і будучыню сваёй дзяржавы, за лёс сацыялізму. Яны прынялі перабудову ўсім сэрцам, як сваю кроўную справу.**

**Урачысты сход, прысвечаны 117-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна, адбыўся таксама ў Мінску. Урачыстасці прайшлі ў многіх гарадах і вёсках нашай рэспублікі.**

КАСМІЧНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ

## СТЫКОЎКА НА АРБІЦЕ

**У адпаведнасці з праграмай далейшых работ арбітальнай навуковай станцыі «Мір» 21 красавіка 1987 года ў Савецкім Саюзе праведзены запуск аўтаматычнага грузавога карабля «Прагрэс-29».**

**23 красавіка ажыццёўлена стыкоўка «Прагрэс-29» з пілатуемым комплексам «Мір», на якім з 8 лютага працуюць савецкія касманаўты Юрый Раманенка і Аляксандр Лавейкін.**

**Упершыню ў калязямной прасторы метадам паслядоўнай зборкі створаны складаны навукова-даследчы комплекс з чатырох складаючых адзіную сістэму касмічных апаратаў: базавага блока, астрафізічнага модуля, пілатуемага і аўтаматычнага караблёў.**

**Карабель «Прагрэс-29» прыстыкаваны да комплексу з боку модуля «Квант». На арбіту дастаўлены паліва для рухальнай установкі, прадукты, вада, абсталяванне і апаратура, а таксама пошта.**

АНТЫВАЕННЫЯ АКЦЫІ

## АЛЕЯ МІРУ

**Веснавы дождж акрапіў толькі што пасаджаныя каштаны ў сталічным парку імя 50-годдзя Кастрычніка. Алею міру і дружбы ў гонар 70-годдзя Вялікага Кастрычніка і Дэкрэта аб міры заклалі тут госці горада-героя Мінска—турысты з ГДР, ПНР, ЗША і розных гарадоў СССР.**

**На новай алеі адбыўся антываенны мітынг.**

**Горад, у які вы прыбылі, сказала адказны сакратар Беларускага камітэта абароны міру Т. Хапалюк, быў ператвораны фашыстамі ў руіны. Адроджаны з брацкай дапамогай усіх савецкіх народаў, ён стаў адным з прыгажэйшых у краіне. Мінчане поўныя рашучасці зрабіць яго яшчэ лепшым. Але для гэтага нам, як і ўсім людзям, патрэбен трывалы мір.**

**Выказаўшы падзяку за сардэчнасць і гасцінnасць, выкладчык каледжа амерыканскага горада Берклі Берт Драгі падкрэсліў, што ён і яго таварышы зразумелі: СССР не імкнецца да ядзернага канфлікту. Гутаркі і сустрэчы на савецкай зямлі, сказаў ён, дапамаглі нам лепш пазнаць і зразумець адзін аднаго.**

КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ

## МАГІЛЁЎ—ВЛОЦЛАВЕК

**У канцы гэтага месяца ва Влоцлаўскім ваяводстве Польскай Народнай Рэспублікі прайшлі Дні Магілёўскай вобласці. Для ўдзелу ў іх у Польшчу з Магілёва выехала дэлегацыя на чале са старшынёй выканкома абласнога Савета народных дэпутатаў А. Яновічам.**

**У ваяводстве, з якім магілёўчане падтрымліваюць пабрацімскія сувязі ўжо дзесяць год, было адкрыта пяць выставак. Яны расказалі аб жыцці працоўных Магілёўскай вобласці, творчасці мастакоў, пазнаёмілі з работамі народных умельцаў, прадукцыяй фабрык мастацкіх вырабаў і дзіцячай цацкі, малюнкамі выхаванцаў дзіцячых мастацкіх школ і студый.**

**З канцэртамі перад жыхарамі Влоцлавека, іншых гарадоў і вёсак ваяводства выступілі беларускія самадзейныя артысты — народны хор беларускай песні з Клімавіч, народны ансамбль народных інструментаў са Шклова, народны ансамбль танца магілёўскага завода «Строммашына». Спецыяльна для паездкі яны падрыхтавалі новую праграму, якую склалі старадаўнія і сучасныя песні, музыка, танцы беларускага і іншых народаў СССР, а таксама польскія народныя песні, папулярныя танцы.**

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



**На досвітку палі калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна напаўняюцца гулам матораў — ідзе сяўба. Адначасова вядзецца культывацыя, уносяцца ўгнаенні.**
**У папярэднія гады з кожнага гектара ў «Прагрэсе» атрымлівалі не менш чым па 50 цэнтнераў збожжа.**
**НА ЗДЫМКУ: веснавыя работы на палях калгаса «Прагрэс».**

У СЕРЫЙНУЮ ВЫТВОРЧАСЦЬ

## ПЕРСАНАЛЬНАЯ ЭВМ «ЕС-1840»

**У Мінскім вытворчым аб'яднанні вылічальнай тэхнікі пачаты серыйны выпуск персанальных прафесіянальных камп'ютэраў маркі «ЕС-1840». Асноўнае іх прызначэнне — вызваліць спецыялістаў ад непрадукцыйнай, руціннай работы. Камп'ютэр можа вырашаць навукова-тэхнічныя, эканамічныя, адміністрацыйныя задачы, павысіць прадукцыйнасць і эфектыўнасць кіравання, разлікаў.**

**Падключыўшы персанальную машыну да вялікай ЭВМ тыпу ЕС, можна карыстацца яе базай даных, выконваючы самыя складаныя аперацыі. Работа з першымі ўзорамі паказала: «ЕС-1840» вельмі эканамічная і надзейная ў эксплуатацыі, па хуткадзеянні і шэрагу іншых параметраў не ўступае, а па некаторых і перавышае лепшыя зарубежныя аналагі.**

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## ТКАНІНА ДЛЯ АПЕРАЦЫЙ

**Выпуск унікальнага медыцынскага палатна для складаных аперацый на сэрцы асвоены вучэбна-вытворчым камбінатам Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці. Тут выраблена першая ў краіне прамысловая партыя тканіны з поліэфірных лаўсанавых ніцей. У руках кардыяхірургаў яна ператворыцца ў дэталі для штучных клапанаў сэрца, крывяносныя сасуды, дапамажа ўрачам умацоўваць надзвычай тонкія швы.**

**Мы не планавалі серыйны выпуск такой спецыфічнай тканіны, гаворыць аўтар распрацоўкі загадчык кафедры трыкатажнай вытворчасці кандыдат тэхнічных навук А. Чаркоўскі. Але заявак ад клінік і кардыяцэнтраў аказалася так многа, што прыйшлося арганізаваць спецыяльны ўчастак. Самі вырабілі абсталяванне, штампы, інструмент. І вось ужо са станкоў пайшла тканіна для сэрца.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

**МІНСК.** На заводзе халадзільнікаў выпушчаны 10-мільённы апарат. Прама з канвеера ён быў уручаны аднаму з лепшых рабочых — маладому брыгадзіру зборшчыкаў М. Свірыдовічу. Так вырашыў калектыў.

**БАРЫСАЎ.** Жыхары вёскі Траянаўкі, цэнтра аднайменнага саўгаса, сталі ўдзельнікамі свята сельскіх вуліц. Па рашэнню выканкома сельсавета адна вуліца названа імем Леніна, другая — Маладзёжнай.

**САЛІГОРСК.** Новы пральны камбінат, які адкрыўся ў мясцовым Доме быту, аблягчыць хатнія клопаты многім жыхарам горада.

**СТОЎБЦЫ.** У самым прыгожым месцы вёскі Ніўнае — на краі яблыневага саду — вырас двухпавярховы катэдж. Яго гаспадарамі сталі юныя жыхары саўгаса «Хотава». Дзіцячы сад наведваюць каля ста малых.

ПРЫКЛАДНОЕ МАСТАЦТВА



**Сёлета мастакі Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва прапануюць пакупнікам больш за 200 новых разнастайных вырабаў. Гэта прыгожыя керамічныя наборы для кавы, вазы, серыя плакетак на гістарычныя тэмы і многае іншае.**
**Вырабы мясцовых майстроў карыстаюцца павышаным попытам. Для павелічэння іх выпуску на прадпрыемстве расшыраюцца вытворчыя плошчы, удасканальваюцца тэхналогіі, паляпшаюцца ўмовы працы рабочых. Нядаўна ў светлым прасторным памяшканні размясціўся габеленавы ўчастак. Цяпер тут выконваюцца заказы мінчан для новай гасцініцы «Беларусь» і Дома прыроды ў Троіцкім прадмесці.**
**НА ЗДЫМКУ: габеленшчыцы (злева направа) Вера БЫКОЎСКАЯ, Валянціна РАКОЎСКАЯ, майстры ўчастка Ніна КАМФАРАВА і Наталля ЛЮТАРЭВІЧ працуюць над тэатральнай заслонай для Палаца культуры ўкраінскага горада Бярдзічава.**

## КАШТОЎНАЯ СЫРАВІНА ЗНАХОДЗІЦЬ ПРЫМЯНЕННЕ

# САПРАПЕЛІ—СКАРБЫ АЗЁР

ТЭРЫТОРЫЯ Беларусі багатая прыроднымі рэсурсамі. Але патрэбы народнай гаспадаркі ўзрастаюць, і падземныя «кладоўкі» паступова пусцеюць. Возьмем торф. Пры існуючых тэмпах здабычы эксплуатацыйныя запасы гэтай каштоўнай сыравіны для ўгнаенняў будуць вычарпаны ў рэспубліцы ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Чым замяніць яго?

Вучоныя і спецыялісты лічаць, што праблему могуць вырашыць сапрапелі — азёрны глей, які стагоддзямі адкладваўся на дне азёр. У Інстытуце торфу Акадэміі навук БССР ужо на працягу многіх гадоў даследуюць магчымасці здабычы і выкарыстання сапрапеляў.

— Гэта сапраўдны скарб, які ляжыць на дне нашых вадаёмаў, — гаворыць дырэктар Інстытута торфу акадэмік АН БССР Іван Ліштван. — У саставе азёрнага глею — цэлая табліца Мендзялеева. Тут гумінавыя кіслоты, угляводы, бітумінозныя рэчывы. Шмат таксама і вітамінаў, антыбіётыкаў, ферментаў, іншых біялагічна актыўных рэчываў. Ёсць крэмній, кальцый, жалеза, алюміній, магній, фосфар, калій...

У Беларусі амаль паўтары тысячы сапрапелепрадукцыйных азёр агульнай плошчай больш за 200 квадратных кіламетраў. Па прагнозах, іх рэсурсы складаюць 4 мільярды кубічных метраў сапрапеляў.

У рэспубліцы прынята спецыяльная навукова-тэхнічная праграма па асваенню рэсурсаў сапрапеляў і вытворчасці на іх аснове ўгнаенняў, мінеральна-вітамінных кармавых дабавак, лячэбных гразей, буравых раствораў, тэхналагічных дабавак для будаўнічых матэрыялаў. Для паспяховай рэалізацыі заданняў праграмы ў Акадэміі навук БССР створана група, у якую ўваходзіць больш за 50 супрацоўнікаў з шасці акадэмічных інстытутаў і трох вышэйшых навучальных устаноў. Яе навуковым кіраўніком зацверджаны доктар тэхнічных навук І. Лапатко.

У адпаведнасці з праграмай Інстытутам торфу АН БССР даследаваны рэсурсы больш чым у 500 азёрах рэспублікі, дадзена іх характарыстыка, распрацавана класіфікацыя, складзены і выдадзены кадастр сапрапелевых адкладанняў азёр БССР. І самае галоўнае — пачата здабыча каштоўнай сыравіны на азёрах Чырвонае і Найда Жыткавіцкага раёна, Судобль Смалявіцкага і Вечар Любаньскага раёнаў, Лочынскае Асіповіцкага раёна. Праектная магутнасць іх — звыш 300 тысяч тон сапрапелевых угнаенняў у год. У 1986 годзе яны далі 400 тысяч тон.

— Гэта значыць, — расказвае акадэмік І. Ліштван, — у рэспубліцы створана аснова для сапрапелевай прамысловасці, што дазволіць не толькі павялічыць вытворчасць многіх неабходных народнай гаспадарцы прадуктаў і матэрыялаў, але і будзе садзейнічаць аднаўленню вадаёмаў, вырашэнню іншых экалагічных праблем. Работа вядзецца па трох асноўных напрамках. Гэта прамысловая вытворчасць сапрапелевых угнаенняў і кармавых дабавак, выкарыстанне сапрапеляў у медыцыне, для прыгатавання буравых раствораў і ў вытворчасці будаўнічых матэрыялаў.

Здабыча ажыццяўляецца з дапамогай спецыялізаваных землясосных снарадаў. Потым сапрапелевая маса па трубах падаецца на бераг у адстойнікі, дзе яе здрабняюць і сушаць.

Цяпер у Беларусі эксплуатуецца пяць прадпрыемстваў па здабычы сапрапеляў для вытворчасці ўгнаенняў. У Брэсцкай і Гродзенскай абласцях заканчваецца будаўніцтва яшчэ двух.

Эканамічна выгадна выкарыстоўваць сапрапелі і ў жывёлагадоўлі ў якасці кармавых дабавак. Уключэнне сапрапелевых гранул у рацыён жывёл павялічвае іх сярэднясутачныя прыбаўленні ў вазе на 10—15 працэнтаў, а таксама зніжае затраты кармоў.

Цікавы факт. Толькі на адным возеры Сушчава, што ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці, не менш чым 1,4 мільёна кубічных метраў сапрапеляў, якія залягаюць пластом ад 5 да 12 метраў. Выкарыстанне такога аб'ёму каштоўнай сыравіны дазволіла б забяспечыць кармавымі дабаўкамі ўсё пагалоўе свіней вобласці на працягу 15—20 гадоў.

Даследаваннямі навукова абгрунтаваны магчымасці і эфектыўнасць выкарыстання сапрапеляў у лячэбнай практыцы. Распрацаваны тэхналогія і абсталяванне па здабычы сапрапелевых лячэбных гразей. Уведзены ў эксплуатацыю два ўчасткі па здабычы лячэбных гразей на азёрах Судобль Мінскай і Святое Гомельскай абласцей.

Лабараторнымі і вытворчымі выпрабаваннямі даказана мэтазгоднасць выкарыстання сапрапеляў для прыгатавання буравых раствораў. Буравыя растворы з сапрапеляў дазваляюць павысіць хуткасць праходкі на 20—25 працэнтаў, даюць эканамічны эфект 20—30 тысяч рублёў у разліку на адну глыбокую свідравіну. Аднак трэба адзначыць, што шырокае ўкараненне сапрапеляў у буравую практыку пакуль стрымліваецца з-за адсутнасці заводскага спосабу іх прыгатавання.

— Улічваючы каштоўнасць сапрапеляў, — гаворыць акадэмік І. Ліштван, — к канцу пяцігодкі прадугледжваецца іх здабыча да 2 мільёнаў тон, а к 2000 году — да 10—12 мільёнаў тон. Аднак для вырашэння пастаўленых задач неабходна прадоўжыць геолага-пошукавыя работы і выдаць поўны кадастр сапрапелевых адкладанняў Беларусі, даследаваць да канца эфектыўнасць выкарыстання сапрапеляў у розных галінах народнай гаспадаркі, стварыць доследна-прамысловыя вытворчасці па перапрацоўцы сапрапеляў у кармавыя дабаўкі, сапрапелепарашок для буравых работ і вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, арганізаваць на аснове сапрапеляў вытворчасць тавараў народнага спажывання. Вельмі важна стварыць доследна-эксперыментальную базу Акадэміі навук БССР для ўдасканалення тэхналогіі здабычы сапрапеляў і абсталявання. Бо ў краіне няма іншага навуковага цэнтра па распрацоўцы і вырашэнню гэтай праблемы, акрамя Інстытута торфу Акадэміі навук БССР.

**Казімір КАНУС.**

**РОБАТЫЗАЦЫЯ: КОМПЛЕКСНЫ ПАДЫХОД**

# НЕ ПААСОБКУ, А РАЗАМ

Прыкладна год дзесяць назад у Беларусі, на мінскім заводзе «Тэрмапласт», дзе вырабляюцца дэталі з пластмас, мне давялося бачыць першыя крокі мясцовай робататэхнікі. Супрацоўнікі бюро робатаў, створанага на заводзе, устанавілі ў цэху сваё першае дзецішча — «механічны прэсоўшчык». Помню, з якой цікавасцю сачылі рабочыя за бездакорнымі рухамі новага «калегі». Тады здавалася, што развіццё робатызацыі на заводзе будзе ісці менавіта так: павелічэннем колькасці маніпулятараў у цэхах.

У нейкай ступені гэта чаканне апраўдалася — цяпер на «Тэрмапласце» робаты вызвалілі дзесяткі чалавек на шкодных участках вытворчасці. Аднак рост не быў чыста колькасным.

Сёння ў прамысловасці Беларусі скарыстоўваецца каля 6,5 тысячы робатаў і маніпулятараў. Дзякуючы ім толькі за апошнія пяць год на кваліфікаваную работу пераведзены 4,8 тысячы чалавек. 1 100 вызвалены ад ручной працы. І што асабліва важна — працэс не быў стыхійным. Захоўвалася важнейшая ўмова эфектыўнасці новай тэхнікі — комплексны падыход да яе ўкаранення. Гэтага ўдалося дабіцца дзякуючы ўзгодненасці дзеянняў соцень прамысловых прадпрыемстваў, навуковых і навучальных устаноў, дзяржаўных органаў у рамках спецыяльнай рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграмы.

Важнай часткай рэспубліканскай праграмы адразу ж стала падрыхтоўка кадраў. Сёння ў дзесяці інстытутах і сямі тэхнікумах рэспублікі рыхтуюцца спецыялісты ў галіне праектавання, вытворчасці і эксплуатацыі робатаў.

Навуковае забеспячэнне праграмы — работа вучоных з інстытутаў Акадэміі навук БССР, Беларускага дзяржаўнага універсітэта і політэхнічнага інстытута. Створаны спецыяльныя навукова-даследчыя аб'яднанні, якія разам з «вялікай навукай» займаюцца распрацоўкай і серыйным вырабам робатаў.

Прыкладам паспяховага супрацоўніцтва з вучонымі можа быць прадукцыя аднаго з такіх аб'яднанняў — «Тэхнапрыбор» у горадзе Магілёве. Тут ствараюць робаты для прыборабудавання, ювелірнай і гадзіннікавай прамысловасці. Заказчыкі асабліва задаволены работай такіх мадэлей, як ПР5-2Э (аперацыі з дэталямі да 300 грамаў), універсальнага робата ТУР-10К (загрузка металаапрацоўчых станкоў, міжаперацыйная транспарціроўка, зборка і г. д.). Сёлета прадпрыемства ўзніме ўзровень сваёй прадукцыі на якасна новую ступень: чарговая мадэль будзе ажыццяўляць асноўныя і дапаможныя тэхналагічныя аперацыі пры зборцы, кантролі і рэгуліроўцы прыбораў.

Здавалася б, поспех відавочны. Так і ацэньвалася б сітуацыя ўсяго паўтара-два гады назад. Аднак цяпер ні адзін са спецыялістаў, з якімі мне давялося гутарыць, не выказаў задавальнення развіццём робататэхнікі ў рэспубліцы. Вынікі старых уяўленняў аб неабходнасці перш за ўсё колькаснага росту да сённяшняга дня даюць сябе знаць. Занадта актыўна ў мінулым робаты ствараліся і выкарыстоўваліся разрознена, проста для замены чалавека на рабочым месцы. Інжынеры і вучоныя падкрэсліваюць, што комплексная аўтаматызацыя, гібкія аўтаматызаваныя вытворчасці разам з ротарнымі і ротарна-канвеернымі лініямі — гэта не проста пажаданы, а адзіна магчымы ў цяперашніх умовах шлях далейшай робатызацыі.

Такі падыход да праблемы ўжо адбіўся ў канкрэтных лічбах. Летась на заводах рэспублікі было ўстаноўлена каля 500 робатаў. Аднак рэзка вырасла колькасць робататэхнічных комплексаў і гібкіх вытворчых сістэм. І дарэчы, што немалаважна, беларускія робаты выдатна «ўжываюцца» з рознымі аўтаматычнымі лініямі і комплексамі.

**Уладзімір БІБІКАЎ.**



**Звыш трохсот розных па свайму прызначэнню машын і агрэгатаў для будаўнічай індустрыі выпускае магілёўскі завод «Стромашына». Яго прадукцыя шырока вядома ў Савецкім Саюзе і амаль у 30 замежных краінах. Характэрна, што апошнія дзесяць год магіляўчане не атрымліваюць рэкламацый ні ад савецкіх спажыўцоў, ні ад замежных фірм. Усё гэта — вынік добра прадуманай сістэмы кіравання якасцю.**

**У адпаведнасці з праграмай навукова-тэхнічнага прагрэсу на заводзе працягваюцца работы па ўдасканальванню вытворчасці. Вялікая ўвага надаецца распрацоўцы прагрэсіўных канструктарскіх рашэнняў і тэхналогій, умацаванню тэхнічнай дысцыпліны.**

**У гэтым пяцігоддзі завод «Строммашына» плануе павялічыць свае экспартныя пастаўкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у адным з механазборачных цэхаў завода; яны ствараюць машыны. Злева направа — інжынер-тэхнолаг Сяргей КРЫСКАВЕЦ, інжынеры-канструктары Аляксандр ЗІНЕВІЧ, Іна КАРНІЕНКА, інжынер-тэхнолаг Станіслаў НЯДЗВЕЦКІ, начальнік канструктарскага бюро Пётр МАСЛЯНКОЎ і інжынер-тэхнолаг Канстанцін ЧУРЛАЕЎ; за дакладнасцю вымяральнай тэхнікі строга сочаць лабаранты Валянціна САЛАМЕННІКАВА (злева) і Людміла САЛАЎЁВА.**

**Фота М. ЖАЛУДОВІЧА.**





## III РЭСПУБЛІКАНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# СІЛА ПРЫЦЯГНЕННЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**16 красавіка 1987 года ў Мінску ў Доме кіно адбылася III рэспубліканская канферэнцыя Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Беларускае таварыства «Радзіма»). На ёй прысутнічалі дэлегаты ад арганізацый-заснавальніц Таварыства, а таксама госці: вядомыя вучоныя, пісьменнікі, прадстаўнікі мастацтва і культуры, грамадскія дзеячы.**

**Са справаздачным дакладам аб рабоце Беларускага таварыства «Радзіма» за перыяд паміж дзвюма канферэнцыямі і задачах па далейшаму развіццю культурных сувязей з замежнымі суайчыннікамі выступіў старшыня прэзідыума Таварыства народны мастак СССР дэпутат Вярхоўнага Савета Беларускай ССР Міхаіл Савіцкі. Даклад рэвізійнай камісіі зрабіла яе старшыня Тамара Хапалюк.**

**У абмеркаванні дакладаў прынялі ўдзел: намеснік старшыні Беларускага аддзялення Савецкага фонду міру Марат Ягораў, паэтэса Раіса Баравікова, мітрапаліт Мінскі і Беларускі, старшыня аддзела знешніх царкоўных зносін Маскоўскага патрыярхата, пастаянны член Свяшчэннага Сінода Філарэт, прадстаўнік Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Леанід Каравайка, старшыня Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму «Спутник» Мікалай Германаў, старшыня калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна, Герой Сацыялістычнай Працы Аляксандр Дубко, загадчыца вучэбна-метадычнага аддзела Рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры Валянціна Кітаева, намеснік старшыні Беларускага камітэта ветэранаў вайны Канстанцін Груздзеў, загадчык аддзела рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» Рыгор Фаменка.**

**Былі зроблены крытычныя заўвагі аб рабоце Таварыства і слушныя прапановы па паляпшэнню яго дзейнасці, пашырэнню і ўмацаванню кантактаў з зарубежнымі суайчыннікамі.**

**У рабоце канферэнцыі прыняў удзел першы намеснік старшыні прэзідыума Савецкага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (Таварыства «Родина») Мікалай Панкоў.**



Беларускае таварыства «Радзіма» падтрымлівае сувязі больш чым з 35 зарубежнымі арганізацыямі, у якіх згуртаваны нашы суайчыннікі. Геаграфія гэтых сувязей ахоплівае 20 краін свету, у якіх пражываюць выхадцы з Беларусі. У 57 краін ідзе па адрасах нашых землякоў і іх аб'яднанняў газета «Голас Радзімы». За апошнія пяць год Таварыства плённа супрацоўнічала з Федэрацыяй рускіх канадцаў, рознымі клубамі і Араў-паркам у ЗША, Федэрацыяй культурных таварыстваў савецкіх грамадзян у Аргенціне, Саюзам савецкіх грамадзян у Бельгіі, Славянскім таварыствам дружбы з



Вялікабрытаніі, Рускім грамадскім клубам у Аўстраліі і іншымі нашымі сталымі, шматгадовымі партнёрамі. У апошнім часе ніці духоўных сувязей пацягнуліся ва Уругвай, Гану, Нігерыю, Судан і іншыя краіны. А гэта сведчыць пра вядомасць Беларускага таварыства «Радзіма» сярод зарубежных суайчыннікаў, з аднаго боку, і пра моцнае прыцягненне Бацькаўшчыны, з другога.

Ці не гэтым прыцягненнем вызначаецца і маштаб той патрыятычнай дзейнасці, якую вядуць нашы замежныя суайчыннікі? Змест яе — гэта і захаванне сваіх нацыянальных традыцый, і развіццё на іх аснове калектываў мастацкай самадзейнасці, і стварэнне школ роднай мовы. Але, бадай, самае галоўнае—гэта распаўсюджанне праўды аб Савецкім Саюзе, барацьба за падтрымку мірных ініцыятыў, з якімі выступае іх Радзіма. Іх намаганні ў высакароднай справе барацьбы за бяз'ядзерны свет, за жыццё на нашай планеце зліваецца з агульнымі намаганнямі за тыя ж мэты народаў краін, дзе жывуць замежныя беларусы. У саставе Федэрацыі культурных таварыстваў савецкіх грамадзян у Аргенціне актыўна працуе камісія «Савецкія грамадзяне Аргенціны ў барацьбе за мір». Яна ўваходзіць у сусветна вядомы рух гэтай краіны «Заклік ста ў імя жыцця». Федэрацыя рускіх канадцаў, у якой большасць складаюць выхадцы з Беларусі, таксама выступае пры правядзенні розных мірных акцый разам з канадскімі прыхільнікамі міру. Напрыклад, аддзел ФРК у Таронта з'яўляецца калектыўным членам «Камітэта за ўсеагульнае раззбраенне» і «Асацыяцыі за мір», а ў Ванкуверы — уваходзіць у «Ініцыятыўны камітэт па правядзенню маршаў міру».

Тое ж можна сказаць і пра арганізацыі суайчыннікаў у Аўстраліі і Еўропе.

Многія замежныя беларусы сваю падтрымку справе барацьбы за мір выказваюць не толькі тым, што ідуць у калонах дэманстрантаў, стаяць у пікетах ля ваенных баз. Яны яшчэ ахвяруюць грошы са сваіх небагатых зберажэнняў у Савецкі фонд міру. Радзіма з удзячнасцю прымае іх добраахвотны і свядомы ўзнос у вялікую справу захавання міру. За актыўны асабісты ўклад ва ўмацаванне міру многія нашы суайчыннікі ўзнагароджаны ганаровым знакам Савецкага фонду міру і атрымалі падзяку яго Беларускага аддзялення.

Усё гэта — сведчанне высокага патрыятызму замежных беларусаў, іх прагрэсіўных перакананняў. А між іншым, быць патрыётам савецкай Радзімы і прагрэсіўным грамадзянінам краіны, дзе жыве наш зямляк, — справа не толькі не папулярная, але і небяспечная. Вядома, якім цкаванням і нападкам падвяргаюцца нашы суайчыннікі і іх арганізацыі як з боку сваіх жа беларусаў — нацыяналістаў, так і з боку афіцыйных улад.

Але сіла прыцягнення Бацькаўшчыны, любоў да яе, гонар за яе вялікія сацыяльныя пераўтварэнні, дасягненні ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця не толькі дапамагаюць пераадольваць усе перашкоды, але і рабіць нешта на яе карысць. Год назад, калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС і нашу краіну напаткала бяда, гэта балюча адгукнулася і ў сэрцах беларусаў-патрыётаў. На іх не падзейнічалі ні патокі самай цынічнай і бессаромнай маны аб чарнобыльскай трагедыі, ні новая хваля антысаветызму. Прагрэсіўныя арганізацыі замежных суайчыннікаў аб'явілі збор сродкаў у фонд пацярпеўшых ад чарнобыльскай аварыі. У Савецкі Саюз ішлі пісьмы і тэлеграмы, у якіх былі спачуванне і падтрымка. Суайчыннікі былі разам з намі ў час выпрабаванняў, як і тады, у гады Вялікай Айчыннай вайны, яны рабілі, што маглі, але рабілі гэта ад чыстага сэрца.

Жыць інтарэсамі Бацькаўшчыны, радавацца яе радасцю і смуткаваць яе смуткам, перадаваць гэтыя свае пачуцці і павагу да Радзімы, зямлі продкаў, сваім нашчадкам — вось вышэйшы сэнс патрыятычнай дзейнасці замежнага суайчынніка і яго грамадзянскі абавязак. Менавіта пра гэта пішуць нашы землякі ў Таварыства і рэдакцыю газеты, дзякуючы за тое, што робіцца для іх, каб яны не былі адарванымі ад Радзімы, ад народа, з якога выйшлі. Дзякуючы за кнігі, за «Голас Радзімы», замежныя беларусы падкрэсліваюць, што яны для іх — глыток чыстага паветра ў атручаным антысавецкім дурманам асяроддзі, крыніца праўдзівай і аб'ектыўнай інфармацыі аб усім, што адбываецца ў Савецкім Саюзе і свеце.

Але нездарма кажуць, што лепш за ўсё пабачыць самому і пераканацца, каб мець сваё меркаванне. Таму многія суайчыннікі, калі дазваляюць сродкі і здароўе, імкнуцца прыехаць на Беларусь, да сваякоў, або зрабіць падарожжа па Савецкай краіне. І тады канчаткова развейваюцца сумненні і трывогі. Многія з тых, хто пабываў на Радзіме і бачыў тыя вялікія пераўтварэнні, што адбыліся за гады народнай улады, пісалі потым, пасля вяртання, у Таварыства і рэдакцыю такія пісьмы, як Станіслаў Карус з Аргенціны: «На рабоце мяне сустрэлі адбыкамкамі і воплескамі. Прайшла чутка, што нам не дазволяць вярнуцца з Савецкага Саюза. А мы не чакалі на Радзіме столькі цудоўнага, прыгожага, столькі людской цеплыні. Пра ўсё гэта мы расказваем тут. Вялікае вам дзякуй!»

Што ж робіць Беларускае таварыства «Радзіма», каб наталіць духоўны голад соцень тысяч нашых суайчыннікаў, раскіданых па ўсіх кантынентах? За справаздачны перыяд было зроблена нямала: прагрэсіўныя арганізацыі землякоў атрымалі тысячы экземпляраў кніг, брашур, календароў, падручнікаў для школ, дзесяткі кінафільмаў, якія далі магчымасць тым, хто яшчэ не быў на Радзіме, убачыць яе рытм жыцця, пазнаёміцца з экрана са сваімі савецкімі сучаснікамі. Адметная тая акалічнасць, што нашы кінафільмы, а таксама фотавыстаўкі ішлі глядзець не толькі беларусы, але і карэнныя жыхары краін — англічане, аргенцінцы, аўстралійцы і інш. Для ўсіх гэта было маленькае ваконца ў нязведаны свет сацыялізму.

Можна смела сцвярджаць, што сёння ўсё часцей і на больш шырокім абсягу гучыць беларуская песня, усё часцей бачаць на сцэне беларускі танец. Паспрыялі гэтаму курсы павышэння кваліфікацыі для кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, якія раз у два гады праводзіць для замежных суайчыннікаў Беларускае таварыства «Радзіма» разам з Міністэрствам культуры БССР. За час, які мінуў з II рэспубліканскай канферэнцыі Таварыства, на іх атрымалі добрую падрыхтоўку больш за пяцьдзесят чалавек. Апрача таго, Таварыства дапамагае многім нотамі, запісамі беларускай народнай і сучаснай эстраднай музыкі, высылае для калектываў мастацкай самадзейнасці ўзоры нацыянальных касцюмаў і многае іншае.

У газеце «Голас Радзімы» рэгулярна змяшчаюцца песні з нотамі, сёлета ў «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы» выйдзе зборнік песень у дапамогу аматарам мастацкай самадзейнасці.

Суайчыннікі за межамі Бацькаўшчыны імкнуцца не толькі самі мацаваць з ёю духоўную повязь, але і перадаць сваім дзецям і ўнукам, якія нарадзіліся на чужой зямлі, глыбокую прыхільнасць да краю бацькоў-дзядоў. Таму так многа жадаючых трапіць на лета ў піянерскі лагер пад Мінскам. Вось ужо больш трыццаці год арганізуе Беларускае таварыства «Радзіма» летні адпачынак для маладога пакалення нашых замежных суайчыннікаў. Спачатку іх дзеці прыязджалі ў піянерскія лагеры, цяпер едуць ужо дзеці дзяцей. Месяц, праведзены сярод сваіх савецкіх равеснікаў, на зямлі, дзе твае карані, застаецца ў памяці і сэрцы на ўсё жыццё. Дзеці падрастаюць з гадамі, а любоў да радзімы бацькоў мацнее. Мацнее і цяга да яе, жаданне зноў пабываць там, дзе быў хлапчуком ці дзяўчынкай.

Таварыства прадаставіла такую магчымасць першай групе моладзі, арганізаваўшы два гады назад злёт юнакоў і дзяўчат, якія некалі адпачывалі ў піянерскім лагеры ў Беларусі. Колькі цікавага, непаўторнага адкрылася маладым людзям! Рэні Куперус напісаў пасля наведання знаёмых мясцін: «Дарагія людзі! Я вельмі шчаслівы, што прыехаў да вас і ўбачыў вас у гэтым цудоўным піянерскім лагеры. Я хачу вам шчыра падзякаваць і спадзяюся, што дружба паміж намі будзе існаваць вечна».

У планах Беларускага таварыства «Радзіма» — правядзенне такіх злётаў рэгулярна, прынамсі, раз у два гады.

Дзецям нашых суайчыннікаў не зачынены дзверы вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. Цяпер тут вучацца студэнты з Грэцыі, Аргенціны, Бразіліі і іншых краін.

У дакладзе і выступленнях дэлегатаў адзначалася, што цяпер, напярэдадні 70-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, калі ў нашай краіне адбываецца шырокі працэс рэвалюцыйнай перабудовы, калі ўрад і партыя, выказваючы волю народа, выступаюць з новымі прапановамі па праблемах ядзернага раззбраення, цікавасць да Савецкага Саюза сярод суайчыннікаў узрастае. І абавязак Беларускага таварыства «Радзіма» падтрымліваць і ўмацоўваць гэту духоўную цягу да Бацькаўшчыны.

* * *

На канферэнцыі былі выбраны савет Беларускага таварыства «Радзіма», рэвізійная камісія і новы састаў прэзідыума. Старшынёй прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма» абраны Міхаіл Савіцкі.



**НА ЗДЫМКАХ: прэзідыум канферэнцыі; выступае мітрапаліт Мінскі і Беларускі ФІЛАРЭТ; у зале — прадстаўнікі грамадскасці рэспублікі.**

Фота **С. КРЫЦКАГА.**

# XX СЪЕЗД ЛЕНИНСКОГО КОМСОМОЛА

XX съезд Ленинского комсомола — самой массовой общественно-политической организации советской молодежи — стал важным событием в жизни нашей страны. Делегаты, приехавшие в Москву из разных уголков Советского Союза, на протяжении четырех дней вели в Кремлевском Дворце съездов заинтересованный разговор о насущных проблемах своего союза.

На съезде выступил Генеральный секретарь ЦК КПСС М. С. Горбачев. Он высоко оценил дискуссии, которые велись на молодежном форуме. Отметил, что они созвучны нынешнему этапу развития страны, остроте и значимости проблем, которые советское общество решает сегодня. Молодежь поддержала новаторский курс партии, ее XXVII съезда. Она включается в перестройку, понимая, что судьба перестройки — это судьба Родины, ее собственная судьба.

Говоря о проблемах молодежного движения страны, М. С. Горбачев подчеркнул, что главная партийная забота состоит сегодня в том, чтобы открыть молодежи самую широкую перспективу, отворить перед нею двери везде — на всех направлениях экономического и научно-технического прогресса, социального творчества, духовного развития. Необходимо избавить молодежь от мелочной опеки, больше доверять ей, воспитывать реальным делом и реальной ответственностью. И надо подкреплять энтузиазм юности деятельной заботой о судьбах молодых людей, сказал М. С. Горбачев.

Большое внимание уделили делегаты съезда рассмотрению социальных проблем молодежи. Отмечалось, что в их решении комитеты комсомола занимают пассивную позицию. А надо, чтобы все — начиная от жилья и кончая досугом молодежи — было в поле зрения комитетов ВЛКСМ.

Материальное и общественное положение человека в нашей стране должно определяться трудом и только трудом. Эту мысль делегатов поддержал и М. С. Горбачев. Дело комсомола — стоять на страже социальной уверенности молодежи, сказал он.

На съезде шел заинтересованный разговор о роли и месте Ленинского комсомола на нынешнем этапе развития общества, в системе нашей демократии. Говоря об этом, Генеральный секретарь ЦК КПСС подчеркнул, что сегодня как никогда есть необходимость в том, чтобы комсомол действовал как активная политическая организация молодежи, участвовал в решении самых разнообразных вопросов жизни страны.

Более 700 делегатов приняли участие в обсуждении узловых проблем комсомольской работы на заседаниях съезда и в дискуссионных центрах. Дискуссия прошла и в ходе встреч делегатов в министерствах и ведомствах, с московской молодежью, в печати, передачах телевидения и радио.

Главное, о чем шла речь, заключалось в определении путей преодоления возникших в комсомоле трудностей, новых подходов к участию в решении социально-экономических, воспитательных задач, вопросов внутрисоюзной жизни, утверждения в комсомольской работе творческого, поискового характера, чтобы она в полной мере отвечала требованиям сегодняшнего дня, интересам и запросам молодежи.

На создание уставных гарантий для перестройки в комсомоле, расширение и углубление внутрисоюзной демократии, развитие самодеятельности и самостоятельности комсомольских организаций направлены изменения, внесенные в Устав ВЛКСМ, новая редакция которого утверждена делегатами съезда.

# ДЕНЬ САМОУПРАВЛЕНИЯ

«Всем! Всем! Всем!

Сегодня — день самоуправления! Наши дорогие учителя, в этот день отдохните от нас. Ученики, пожалуйста, отвечайте хорошо и ведите себя сносно.

Учком. Комитет комсомола».

Такое объявление встречало каждого входящего в минскую среднюю школу № 1. На всех этажах здания, в бассейне, спортивном и хоровом залах, в каждом классе царила особая атмосфера. В этот день истинными хозяевами школы стали сами ребята. Они взяли на себя все функции управления и воспитания — от директора, педагогов до техничек.

Должности распределяли сами ученики. Утверждал их учком.

Директор школы сдала свои полномочия восьмикласснице Светлане Воронцовой.

Для беседы со мной она смогла выкроить всего несколько минут. Первый вопрос: как осуществляется школьная реформа в школе, где учится, а в данный момент работает юный директор?

— Такой день, как сегодня, — это и есть следствие школьной реформы, — последовал ответ. — Учимся демократии, самостоятельности, умению принимать ответственные решения. В школе введены новые предметы: этика и психология семейной жизни, информатика и основы вычислительной техники. Техническую часть программ по ВТ проходим в Белгосуниверситете. Еще у нас появилось целых три класса шестилеток. Комсомольская и пионерская организации взяли над ними шефство. Мы сами сделали для малышей игрушки, собрали для каждого класса библиотечку, восьмиклассницы организовали бюро добрых услуг.

Какова главная цель школьной реформы? На мой взгляд, привить интерес к знаниям.

Когда закончились все уроки, учителя-дублеры собрались в кабинете директора на педсовет.





Подобные дни самоуправления проводятся сейчас во многих школах нашей республики. В некоторой степени это, естественно, игра. Тем не менее, специалисты считают, что такие дни нужны. Школьное самоуправление — это воспитание ребят доверием, развитие у них чувства ответственности, навыков самостоятельности и организованности.

**В. ЛЕВИН.**

**НА СНИМКАХ: педсовет проводит директор восьмиклассница Светлана ВОРОНЦОВА; завуч Сергей ХАЦКЕВИЧ.**

**ПРОБЛЕМЫ МИГРАЦИИ: МНЕНИЕ СПЕЦИАЛИСТА**

# КОМУ РАБОТАТЬ НА СЕЛЕ

**О проблеме кадров для села рассказывает директор белорусского Института экономики и организации сельского хозяйства, кандидат экономических наук Виктор КРЕСТОВСКИЙ.**

— Город по-прежнему отнимает у села наиболее активную, работоспособную часть населения — людей в возрасте от 16 до 40 лет, поэтому село стареет. Так, в животноводстве работают в основном женщины старше 45 лет. А молодежи до 20 лет на фермах менее одного процента.

Проблема кадров для села в республике постоянно находится в центре внимания института. Наши ученые разработали научно-техническую программу «Трудовые ресурсы», рассчитанную на долгосрочную перспективу. Она уже подкрепляется государственными инвестиционными вложениями.

Конечно, молодежь вольна в выборе, где ей работать и жить — в городе или деревне. Но с другой стороны, чрезмерная миграция в города противоречит интересам социалистического общества. Ведь оно нуждается в рациональном обеспечении рабочей силой всех отраслей народного хозяйства. Достичь этого можно путем планового регулирования миграции.

Уровень миграции существенно зависит от условий жизни селян. Социологические исследования показали, что коэффициент текучести трудовых ресурсов на селе в 2—2,5 раза выше в тех хозяйствах, где слабо развита социальная инфраструктура.

Дом, приобретенный в кредит и на льготных условиях, крепко привязывает крестьянина к земле. Поэтому в передовых хозяйствах молодоженам предоставляют квартиры, а то и строят для них новые дома. Например, колхоз имени Орджоникидзе выделил крупную сумму на комплексную застройку нового поселка: дома со всеми удобствами, школа-десятилетка, торговый центр, детский сад и т. д. В результате хозяйство приняло 129 новых семей.

Миграция — это ко всему еще и психологическая, семейная проблема. Веками складывался стереотип мышления: выйти в люди можно только в городе. Большинство школьников городские профессии выбирали под влиянием родителей. Сейчас ситуация во многом изменилась. Когда, скажем, семья из 4—5 человек заключает договор с хозяйством на обслуживание небольшой фермы, родители находят убедительные аргументы, чтобы уговорить взрослых детей остаться дома. Выгода прямая. Семья обеспечена высоким и стабильным доходом — в среднем 400—500 рублей на человека, а село — рабочей силой.

Что же касается возможности приобрести городскую профессию, то теперь это можно сделать и в деревне. Так, в известном колхозе «Рассвет» на Могилевщине полеводы и механизаторы владеют строительными специальностями. Зимой, когда нет полевых работ, они возводят различные колхозные объекты, имеют хороший заработок.

Интересен опыт Островецкого района Гродненской области. Здесь во всех колхозах открыты подсобные цехи по производству соков, меховых изделий, домашней утвари и т. д. Свою продукцию они поставляют предприятиям Москвы, Ленинграда, других городов страны. Во время посевной или уборки цехи закрываются — все идут в поле. Благодаря подсобным промыслам из городов стали возвращаться выпускники сельских школ, особенно девушки.

Как видите, проблемы пока есть, но уже есть и конкретные пути их решения. Скажу откровенно: мы убеждены, что, создавая надежно действующую социальную инфраструктуру села, страна тем самым закладывает прочную основу для ускоренного перевода аграрного производства на рельсы интенсивного развития.

**Беседу вел Леонид ЛОХМАНЕНКО.**

# *ВЫ ХОТИТЕ ЗНАТЬ*

**— Что у вас предпочитает молодежь — читать книги или смотреть телевизор?**

— Советский Союз занимает, по данным ЮНЕСКО, первое место в мире по выпуску книг — около 100 000 названий в год. Но читает ли их молодежь?

«Век книги кончается», — так категорично заявил в «Литературной газете» Сергей Павлов, 16-летний учащийся техникума из Саратова (город на реке Волге), «киновидеоман», как он сам представился. С этого письма на страницах газеты разгорелась дискуссия, в итоге которой выяснилось, что только 1,5 процента написавших в редакцию (несколько тысяч человек) согласны с Сергеем.

Престиж книги у советской молодежи по-прежнему высок. Социологи подтверждают это такими цифрами: более 80 процентов молодых, опрошенных в нескольких городах Российской Федерации, имеют или хотели бы иметь личные библиотеки. На чтение художественной литературы молодой человек в СССР тратит в среднем около часа в день — больше, чем сверстники за рубежом.

Список наиболее читаемых книг возглавляют русская и зарубежная классика (по 38 процентов). Далее идут произведения современных советских прозаиков (36,2 процента), советская (20,1 процента) и зарубежная поэзия (11,6 процента).

И все-таки на час чтения приходится у современных молодых людей в СССР 1,5 «телечаса». Что, впрочем, не вызывает больших тревог у специалистов, поскольку часть этого времени отдается познавательным и учебным программам.

**— Получают ли ученики школьные завтраки бесплатно? Или за них нужно платить?**

— Бесплатно школьные завтраки и обеды получают очень немногие — только дети из малообеспеченных семей (таких, где доход на одного человека не превышает 50 рублей). Остальные платят: 20 копеек за завтрак (например, стакан чая, бутерброд с котлетой, творожный сырок) и 40 копеек за обед (салат, борщ, бифштекс с картофельным пюре, компот или кисель).

Некоторые считают, что стоит отменить эту плату — тем более что она чисто символическая. Но другие полагают, что это будет неверный шаг с воспитательной точки зрения.

**— Есть ли в Советском Союзе возрастной ценз на покупку алкоголя? Разрешается ли у вас употреблять спиртные напитки на стадионах, во время концертов?**

— В июне 1985 года вступил в силу закон по борьбе с алкоголизмом. Среди прочих мер он повысил возрастной ценз на продажу спиртных напитков — с 18 лет до 21 года.

У нас запрещены продажа и употребление алкоголя во всех общественных местах, кроме, естественно, ресторанов и баров.

**— Какова у вас продолжительность службы в армии? Берут ли в армию девушек? Правда ли, что студенты освобождаются от службы в армии? Как поступают с теми, кто отказывается служить?**

— В Советском Союзе все юноши с 18 лет обязаны проходить действительную армейскую службу. Она продолжается 2—3 года.

Девушки могут пойти в армию как вольнонаемные — только по их собственному желанию. Такие случаи редки.

Студенты не освобождаются от службы в армии, но в некоторых вузах они получают отсрочку от призыва.

Уклонение от службы в армии признается у нас уголовным преступлением и наказывается лишением свободы на срок от одного года до трех лет.

